facebookwkhpilnemxj7asaniu7vnjjbiltxjqhye3mhbshg7kx5tfyd.onion
(2022-12-29)

# Facebook

---

У 2001-ым годзе рэдакцыя “Іхнай Нівы” аб’явіла конкурс на тэму “Беларусь праз 100 гадоў”. Кожны з удзельнікаў павінен быў напісаць апавяданьне, у якім бы ён апісаў сваё ўяўленьне, якой будзе Беларусь у 2101-ым годзе.

Я напісаў апавяданьне “Руская аўтаномія”, у якім параўнаў Беларусь у 2101-га году з сучасным Ісраэлем: Супраўдныя Беларусы, якія на працягу некалькіх пакаленьняў пражывалі ў іншых краінах, не растварыўшыся сярод чужынцаў і не зьмяшаўшася зь імі, захаваўшы сябе як народ і як этнас, вяртаюцца на сваю спрадвечную радзіму. Будуючы, узмацняючы і ахоўваючы сваю краіну, ім прыходзіцца жыць побач з насельніцтвам “Рускай аўтаноміі”, нашчадкамі тых “беларусаў”, якія некалі выракліся сваіх каранёў, сваёй мовы, сваёй культуры, і ў выніку, зьмяшаўшыся з球 рознай сусьветнай набрыдзьдзю, перетварыліся ў іншую супольнасьць, з цалкам іншым сьветапоглядам і вобразам жыцьця.

Але мой матэрыял так і ня быў надрукаваны. Ён проста бясьледна зьнік у рэдакцыі “НН”. Я не здагадаўся пакінуць сабе ксеракопіі. А ўсе мае спробы вярнуць апавяданьне, не далі ніякага плёну.

Зараз, больш як праз 20 гадоў, я ўяўляю будучыню Беларусі зусім па-іншаму. У маім уяўленьні Беларусь 2101-ым годзе — гэта велізарная бібліятэка з галерэяй і выставачнай залай. Бібліятэка проста перапоўненая кнігамі на беларускай мове, беларускіх і замежных аўтараў. Літаратура самая розная: мастацкая, навукова-дасьледчая, дзіцячая, … Вельмі шмат паэзіі. Але няма самага галоўнага, няма тых, хто б гэтыя кнігі чытаў, няма людзей. Бо ніхто сюды не прыходзіць, ніхто гэтыя кнігі не чытае. Таму яны пакрытыя пылам і павуціньнем.

Пройдзе яшчэ зусім няшмат часу і гэтыя кнігі будуць выкінутыя на сьметнік. А будынак будзе запоўненыя кнігамі на іншай мове.

Чаму ў мяне гэтакі песімістычны прагноз? Бо на працягу ўсяго свайго жыцьця я назіраю наступную тэндэнцыю:

У маім дзяцінстве, у пачатку 70-ых гадоў, я жыў на вёсцы ў цалкам беларускамоўным асяродку. Тады мне здавалася, што ўсе людзі размаўляюць па-беларуску. Але трапіўшы ў горад, я адчуў сапраўдны шок. У горадзе большасьць насельніцтва размаўляла на незразумелай тады мне мове. У дзіцячым садку нехта зь дзяцей сказаў мне прыблізна так: «Ты говоришь по-«дзеравенски», а мы говорим по-городскому».

Падобны шок у мяне выклікалі вынікі сумнавядомага рэферэндума 1995 г., калі 83,3% “беларусаў” прагаласавалі за поўнае зьнішчэньне беларускай мовы. Гэтыя ж самыя 83,3% прагаласавалі й за зьнішчэньне беларускай дзяржаўнасьці.

Ужо тады было зразумела, што мы, сапраўдныя Беларусы, зьяўляемся нацыянальнай меншасьцю на сваёй зямлі, што нас засталося толькі 12,7-12,8% насельніцтва РБ (тыя, хто прэзідэнцкіх выбарах 1994 г. галасаваў за З. С. Пазьняка, а на ганебным рэферэндуме 1995 г. — за захаваньне беларускай мовы).

Ужо тады трэба было дзейнічаць інакш. Ня трэба было кідацца ў агітацыю. Ня трэба было ўгаворваць “несьвядомых”, ня трэба было іх упрошваць, каб на парламентскіх выбарах 1995 г. яны падтрымалі кандыдатаў-патрыётаў. Ня трэба было марнаваць сілы, час, сродкі. …

А трэба было рабіць так, як на працягу тысячагодзьдзяў рабіў народ Ісраэльскі: Калі абсалютная большасьць Іўрэяў адракалася ад Бога Жывога і пачынала служыць нячыстай сіле, невялікая колькасьць сапраўдных прадстаўнікоў народу Божага рашуча адзьдзяляла сябе ад адступіўшай большасьці і ўтварала новы адроджаны народ.

Гэтак у свой час зрабілі й Стараверы, рашуча адзьдзяліўшы сябе ад “ніканаўцаў”, і, дзякуючы гэтаму, захавалі сябе як асобны народ,

дарэчы, надзелены, як і Іўрэі, вялікай здольнасьцю да прадпрымальніцтва.

Нешта падобнае зрабілі й Паўночнаамерыканскія Індзейцы на Чыкагскай канферэнцыіі ў чэрвене 1961-га году.

Вось толькі, мы, Беларусы, чамусьці лічым, што Беларусамі зьяўляюцца ўсе, хто пражывае ў РБ, усе, хто мае беларускі пашпарт. Таму ўсе прадстаўнікі іншых народаў, якія ехалі, дый зараз працягваюць прыязжаць на ПМЖ у Беларусь, — гэтакія ж самыя Беларусы, як і мы. Праўда, яны “несьвядомыя”. Таму мы, “сьвядомыя”, павінны навучыць іх нашай мове, нашай культуры, і, увогуле, зрабіць іх “нашымі”. Ну што, навучылі? Ну што, зрабілі? Біліся, біліся, дый самі разьбіліся. Разьбіліся так, што зараз нас, сапраўдных Беларусаў, засталося значна менш, чым было ў 1995-ым годзе.

Бо за гэтыя гады шмат сапраўдных Беларусаў пакінула гэты сьвет. Шмат выехала за мяжу. … Але ж я лічу, што галоўная прычына катастрафічнага зьмяншэньня нашага этнасу заключаецца ў іншым, аб чым і хачу распавесьці падрабязьней:

Аднойчы, увосень 2005 г., ідучы па Менску, я раптам сустрэў свайго старога “фронтаўскага” сябра, які амаль усё жыцьцё прапрацаваў электрыкам на адным, даволі вядомым, у нашай краіне прадпрыемстве. А яшчэ ён быў галоўным “бээнэфаўцам” (“пазьнякістам”) у адным са “спальных” раёнаў Менску.

— Прывітаньне, — сказаў ён мне, — а ў мяне ёсць цікавая навіна. А ці памятаеш ты адстаўнога падпалкоўніка Г. У. Банкевіча?

Ну як было не памятаць кіраўніка фронтаўскай дружыны, любімым заняткам якога было навучаньне нас, “маладых”, якімі трэба быць “сьвядомымі беларусамі”?

— Дык вось, Банкевіч аддаў сваю дачку замуж. І за каго б ты думаў? За каста-рыканца.

— А цяпер скажы мне, — зьвярнуўся я да свайго суразмоўцы, — дзеля чаго мы столькі часу аддалі на змаганьне, дзеля чаго мы выходзілі на дэманстрацыі, дзеля чаго мы падстаўлялі свае галовы пад дубінкі, дзеля чаго мы сядзелі па 10-15 сутак на “Прылуках”? А ўсё гэта было толькі дзеля таго, каб “сьвядомыя беларускі”, накшталт Аліны Банкевіч, мелі магчымасьць зьмяшаць сваю кроў з каста-рыканскай. Дык ці варта было за гэта змагацца? Думаю, ня варта. Дарэчы, цяперашняя “беларуская” ўлада гэтага не забараняе. Наадварот, цяперашняя “беларуская” ўлада актыўна спрыяе гэтаму працэсу.

— Дзякую, дружа, што ты мне вочы адкрыў, — сказаў ён, — і праўда, дзеля чаго мы змагаліся, мабыць, толькі дзеля таго, каб “сьвядомыя беларускі” маглі папоўніць сабой чужынскі генафонд.

Як бачна, у гэтым пытаньні мы з маім сябрам-электрыкам знайшлі поўнае паразуменьне, але, на жаль, толькі зь ім. У наступныя гады я, сустракаючы сваіх знаёмых “фронтаўцаў”, часта задаваў ім наступнае пытаньне: “Як вы ставіцеся да таго, што беларускія дзяўчаты, асабліва “сьвядомыя”, у масавым парадку выходзяць за прадстаўнікоў іншых народаў, за розную сусьветную набрыдзь. Амаль усе адказы гучалі прыблізна так:

— Гэта вельмі добра, калі сьвядомая беларуска пайшла за чужынца. Цяпер гэты чужынец зробіцца нашым. І нас, Беларусаў, стане больш.

Я спасылаўся на Сьвятое Пісаньне, на закон Божы, згодна якому, жаніх плоціць за сваю нявесту могар (выкуп), у выніку чаго яна становіцца членам ягонай сям’і, ягонага роду і ягонага народу, і. сл. нацыянальнасьць жанчыны вызначаецца па мужу. І што чуў у адказ:

— Калі беларуска пойдзе за чужынца, яна для нас чужой быць не перастане. Як была яна “беларускай”, гэтак яна ей і застанецца. А яшчэ яна яго зробіць “нашым”.

Пасьля ўзгаданых вышэй “сацыялагічных апытаньняў” мне зрабілася не па сабе. Мне стала бачна, што наш народ на вачах зьнікае ў выніку растварэньня, зьмяшэньня з чужынцамі, што абсалютная большасьць “сьвядомых беларусаў” ня толькі не зьбіраюцца супрацьстаяць гэтаму

працэсу, але й актыўна яму спрыяюць, што мы, Беларусы, ёсьць народ — самазабойца, які сам, без вайны, зьнішчае свой генафонд. У мяне проста “апусьціліся рукі”. У гэты момант я, як ніколі, адчуў вялікі душэўны боль. Я ўбачыў, што тыя рэшткі нашага народу, якія яшчэ заставаліся ў першай палове 90-х гадоў, зьнікаюць на вачах. “Сьвядомыя беларускі” выходзяць за чужынцаў. З гэтага моманту яны перастаюць быць Беларускамі. Яны становяцца прыналежніцамі іншага народу. У беларускіх хлопцаў не застаецца іншага выйсьця, як толькі шукаць сабе нявесту «на бескрайних просторах России». У гэты момант я, як ніколі, адчуў страх і адчай.

Каб хоць трохі зьняць цяжар з душы, я вырашыў паразмаўляць з адным сваім добрым знаёмым, зь якім мы пазнаёміліся ў 2003-ім годзе, і неяк адразу знайшлі паразуменьне. Ён быў не беларус. Ён быў прадстаўнік іншага народу. Якога? Гэта можна лёгка здагадацца па ягонаму імені — Самуэль Меяровіч.

Выслухаўшы мяне, Самуэль прамовіў:

— Я скажу табе нешта такое, ад чаго ты, мабыць, будзеш вельмі зьдзіўлены. У нашага народу яшчэ да вайны быў гэтакі звычай: Калі наша дзяўчына выходзіла за чужынца (за гоя), ейная сямья сем сутак не выходзіла з хаты, як быццам памёр блізкі родзіч, член сямы. Праходзіць сем сутак. Прыходзіць радня. Прыходзяць суседзі. Прыходзіць рабін. І па ёй спраўляюць паніхіду. Бо для нашага народу яна памёрла. І цяпер, калі нават родная маці дзе-небудзь яе ўбачыць, дык адвернецца. А што зробіш? Калі б у нас не было гэтага закону, гэтага звычаю, дык і нашага народу даўна б ужо не было. Мы б зьмяшаліся, растварыся ў чужым асяродзьдзі. Таму нам і даводзілася ісьці на гэтакія жорсткія меры, каб страціўшы некаторых “сваіх” членаў, захавацца як народ.

— Ведаеш, Самуэль, — сказаў я яму, — па-першае, таму, што ты сказаў, я ніколькі не дзіўлюся, а па-другое, як я шкадую, што ў нас, Беларусаў, няма гэтакага закону.

— А яшчэ дадам на разьтаньне, — сказаў ён, — у вас, Беларусаў, ёсьць толькі два шляхі: або вы становіцеся гэтакім народам, як мы, або вы

ўвогуле зьнікаеце як народ. …